# Акт 25-га Сакавіка й Адраджэньне Нацыянальнай Беларускай Культуры

**АЎГЕН КАЛУБОВІЧ**

*(працяг з папярэдняга нумару газэты)*

**—3—**

У ЧАСЕ 1-ай сусьветнай вайны, „з восені 1915 году ... па ўсім Паўночна-Заходнім краі" было забаронена друкаваньне кніг і газэт на беларускай мове"[83]. У выніку гэтай забароны мусілі спыніць сваю дзейнасьць усе беларускія выдавецтвы ў Расеі:

*„Загляне сонца ў наша ваконца" ў Пецярбургу* (ад 1906 г. да вайны выдала 38 кніжок);

*Выдавецтва „Нашай Нівы" ў Вільні* (ад 1907 г. выдала 33 кніжкі; зборнік апавяданьняў К.Лейкі „Засеўкі", прысланы ў выдавецтва ў 1914 г., ужо ня быў выдадзены);

*„Беларускае Выдавецкае Таварыства" ў Вільні* (у 1914 г. выдала 13 кніжок, у 1915 — толькі 2; выдавецтва плянавала выданьне літаратурнага часапісу, школьных падручнікаў — лемантара, чытанкі, беларускай граматыкі, арытмэтыкі, слоўнікаў[84], кніжкі вершаў „Лірнік" М.Арпа[85] і іншых, але да выданьня іх ужо не дайшло);

*Выдавецтва Антона Грыневіча ў Пецярбургу* (у 1910-14 гг. выдала 10 кніжок);

*Выдавецтва "Biełarusa" ў Вільні* (у 1913-15 гг. выдала 9 кніжок);

*Выдавецтва „Саха" ў Менску* (у 1914-15 гг. — 5 кніжок);

*Выдавецтва „Вясёлка" ў Менску*, заснаванае ў пачатку 1915 году — толькі 1 кніжку.

Адраджэньне **беларускага друку** й арганізацыя ў сувязі зь ім **беларускіх выдавецтваў** пачалося таксама ў заходняй частцы Беларусі, пад нямецкай акупацыяй, яшчэ перад згадваным намі загадам Гіндэнбурга ад 16.І.1916 г. Ужо ў канцы 1915 году ў Вільні паўстала два беларускія выдавецтвы:

*Выдавецтва газэты "Homan"* і

*Выдавецтва* заснаванага там *Беларускага Камітэту*, а ў 1917 годзе —

*Выдавецтва В. Ластоўскага.*

Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 году ў Расеі, пры Часовым урадзе, адраджэньне беларускага друку пачалося і ўва ўсходняй (падрасейскай) частцы Беларусі. Там у 1917 годзе БНК заснаваў у Менску

*Выдавецтва „Вольнай Беларусі".*

Ад пачатку 1918 году ўжо ў БНР былі створаныя —

*Выдавецтва Народнага Сакратарыяту БНР у Менску;*

*Выдавецкае Таварыства "Kryniса"* (як працяг Пецярбурскага Выдавецтва Беларускай Хрысьціянскай Злучнасьці *"L. Chwiedźko i Spka"*, перанесенага ў 1918 годзе ў Менск, а ў 1919 — у Вільню);

*Выдавецкае Таварыства „Бацькаўшчына" ў Менску.*

Для выданьня школьных падручнікаў і дзіцячай літаратуры ў 1920 годзе Міністэрствам Асьветы БНР было заснована

*Менскае Асьветнае Выдавецтва.*

У Вільні ў 1919 годзе аднавіла сваю дзейнасьць, закрытае ў 1915 годзе,

*Беларускае Выдавецкае Таварыства*, а ў 1920 годзе паўстала прыватнае

*Выдавецтва У. Знамяроўскага.*

Паза межамі БНР —

*Беларускае Выдавецкае Таварыства „Зорка" ў Кіеве* (1919 г.);

*Выдавецтва Міністэрства Беларускіх Спраў у Коўне* (1919-20 гг.);

*Выдавецкае „Таварыства імя Ф. Скарыны" ў Коўне* (1919-21 гг.);

*Выдавецтва „Беларускай Місіі" ў Бэрліне* (1919-21 гг.);

*Выдавецтва Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Рызе* (1920-21 гг.).

Усе названыя вышэй школьныя падручнікі, дзесяткі іншых кніг і брашураў, беларускія газэты й часапісы былі выдадзеныя гэтымі выдавецтвамі. Зь іх із кніг усяго разам: у 1917 годзе — 23 кніжкі, у 1918 — 51, у 1919 — 36[86]. За 1920 і 1921 гг. мы ня ведаем дакладнае статыстыкі. З мастацкай літаратуры — гэта творы В. Дуніна-Марцінкевіча[87], Ф. Багушэвіча[88], Я. Купалы[89], Я. Коласа[90], А. Гаруна[91], К. Каганца[92], Ядвігіна Ш.[93], А. Паўловіча[94], Ф. Аляхновіча[95], М. Гарэцкага[96] й іншых беларускіх пісьменьнікаў. З мовазнаўчае й гістарычнае літаратуры — слоўнікі М. Гарэцкага, В. Ластоўскага й К. Дуж-Душэўскага[97], публікацыі М. Доўнара-Запольскага, А. Цьвікевіча, К. Езавітава, А. Навіны (Луцкевіча), Я. Варонкі[98]. Сьпеўнік А. Грыневіча[99], кніжка пра беларускія песьні А. Фарботкі[100] й г.д.

З прыходам у Беларусь бальшававікоў дзейнасьць усіх менаваных беларускіх выдавецтваў была забаронена. Дзеля таго-ж, што савецкая ўлада ў БССР, заміж іх, не зарганізавала ніякага іншага беларускага выдавецтва[101], у красавіку 1922 году ў Менску на сродкі сяброў-пайшчыкаў паўстала *Беларускае каапэратыўна-выдавецкае Таварыства „Адраджэньне"*. За колькі месяцаў яно выдала шэраг кніжок мастацкай літаратуры (зборнікі вершаў *„Дудка Беларуская"* й *„Смык Беларускі" Ф. Багушэвіча, „Спадчына" Я. Купалы, „Водгульле" Я. Коласа, „Пад родным небам" З. Бядулі*, паэма *„Босыя на вогнішчы" М. Чарота* — першыя іхныя савецкія выданьні), колькі беларускіх школьных падручнікаў, „Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры" М. Янчука й пад рэдакцыяй Я. Лёсіка літаратурна-навуковы весьнік Інстытуту Беларускае Культуры „Адраджэньне", Нр.1[102], сканфіскаваны савецкай цэнзураю й зусім забаронены. І само выдавецтва „Адраджэньне" праіснавала нядоўга, будучы ў канцы таго-ж 1922 году „рэарганізаваным" у Выдавецтва „Савецкая Беларусь".

**—4—**

РАЗАМ з друкам, дзякуючы новым беларускім выдавецтвам, адрадзіліся й беларускія пэрыядычныя выданьні — **газэты** й **часапісы**. Некаторыя выдавецтвы, як, прыкладам, Выдавецкае Таварыства „Бацькаўшчына" ў Менску (яно мела свае аддзелы ў Бабруйску, Горадні, Вільні, Рызе, у некаторых паветавых цэнтрах) асабліва было актыўным у выданьні беларускіх газэтаў і часапісаў („Беларусь", „Беларускае Слова", „Беларуская Думка", „Незалежная Думка", „Беларуская Ілюстраваная Часопісь", „Бацькаўшчына" й інш.).

Пачатак адраджэньню беларускай прэсы паклала газэта „Гоман", якая ад 15.ІІ.1916 г. двойчы на тыдзень пачала выходзіць у Вільні пад рэдакцыяй В. Ластоўскага, а ад Нр.33/125 за 24.IV.1917 г. — Я. Салаўя. Сьпярша газэта друкавалася толькі лацінскім шрыфтам, а ад 1.IX.1916 — лацінскім і кірылічным. Апошні, ведамы нам, мажліва, не апошні нумар газэты (Нр.62/258) выйшаў 9.VIII.1918 году.

1.XI.1916 г. у Пецярбурзе пачалі выдаваць беларускія газэты З. Жылуновіч (Ц. Гартны) і Э. Будзька. Першы — газэту

*„Дзяньніцу"*, другі —

*"Swietač"*.

Абедва выдалі толькі Нр.Нр.1-7, але дзеля немажлівых цэнзурных вымогаў 31.XII.1916 г. выданьне газэтаў мусілі спыніць.

У 1917 годзе, пасьля Лютаўскай расейскай рэвалюцыі, пры Часовым урадзе, зьявіліся беларускія газэты і ў Менску:

*„Вольная Беларусь"* (ад 28.V.1917 г.) як тыднёвік БНК (пазьней — Цэнтральнай Рады Беларускіх арганізацыяў — Вялікай Беларускай Рады — Рады БНР); рэдактар газэты — Я. Лёсік;

*„Грамада"*, тыднёвік БСГ, рэдактар — А. Смоліч;

*„Беларуская Рада"*, орган Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, выходзіла тройчы ў тыдні;

і ў Пецярбургу ад 8-га сьнежня —

"Kryniса", пад рэдакцыяй кс. Л. Хведзькі.

У 1918 годзе, ужо ў БНР, працягвалі выходзіць газэты *„Гоман"*, *„Вольная Беларусь"*, *„Беларуская Рада"*, *"Kryniса"* (перанесеная із Пецярбургу ў Менск і рэдагаваная тут кс. В. Гадлеўскім). Апрача таго зьявіліся новыя газэты:

*„Беларускі Шлях"* (Менск), штодзеньнік Менскага Народнага Прадстаўніцтва, пад рэдакцыяй А. Прушынскага (А. Гаруна) ці П. Аляксюка;

*„Родны Край"* (Слуцак), тыднёвік Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Слуцку, пад рэдакцыяй А. Пяткевіча;

і часапісы —

*„Беларуская Ілюстраваная Часопісь"* (Вільня);

*„Варта"* (Менск), ілюстраваны літаратурна-грамадзкі, навукова-гістарычны й эканамічны штомесячнік пад рэдакцыяй Я. Варонкі; і

*„Крывічанін"* (Вільня), палітычна-літаратурны штомесячнік пад рэдакцыяй В. Ластоўскага. (Два апошнія выйшлі толькі Нр.1 за кастрычнік месяц.)

Ад сьнежаня 1918 году да красавіка-жніўня 1919 году БНР, за выключэньнем Гарадзеншчыны, Беласточчыны, Берасьцейшчыны й усходняй часткі Віленшчыны, была акупаваная савецкім войскам. На акупаванай тэрыторыі, на загад ЦК РКП(б) з Масквы, 30.XII.1918 г. у Смаленску, на абласным зьезьдзе РКП(б), была праклямаваная БССР; якую, на новы загад з Масквы, 27.ІІ.1919 г. зьліквідавалі, улучыўшы яе ў г.зв. ЛітБел. І ў БССР і ў ЛітБел савецкімі ўладамі не выдавалася *аніводнай* газэты ці часапісу ў *беларускай мове*[103]. Яны працягвалі ў гэтым часе выходзіць у Горадні й Вільні (да заняцьця яе савецкім войскам), куды зь Менску выехалі Рада й Урад БНР. Тут выдаваліся газэты:

*„Беларусь"* (Горадня), двойчы на тыдзень, орган Цэнтральнай Рады Гарадзеншчыны;

*„Зорка"* (Горадня), тыднёвік Гарадзенскага Беларускага Камітэту;

*„Родны Край"* (Горадня), орган Беларускай Партыі Эсэраў пад рэдакцыяй Т. Грыба.

Па заняцьці польскім войскам Вільні (21.IV.1919 г.) там пачалі выходзіць беларускія газэты —

*„Незалежная Беларусь"*, орган Беларускай Народнай Партыі, пад рэдакцыяй Я. Станкевіча;

*„Наша Думка"*;

*„Беларуская Думка"*, тройчы ў тыдзень, орган Беларускай Партыі Эсэраў, пад рэдакцыяй І. Вайцяховіча.

Але хутка палякі закрылі гэтыя віленскія газэты, як і гарадзенскую газэту *„Родны Край"*. Аднак, заміж іх, пад польскай акупацыяй БНР зьявіліся іншыя газэты —

*„Беларускі Народ"* (Горадня), двойчы на тыдзень;

*„Беларускае Слова"* (Горадня), пад рэдакцыяй С. Рак-Міхайлоўскага;

*„Грамадзянін"* (Вільня), орган Беларускай Партыі Эсэраў пад рэдакцыяй Т. Грыба;

а па заняцьці палякамі Менску (8.VIII.1919 г.) —

"Zwon" (Менск), тройчы на тыдзень, пад рэдакцыяй І. Луцэвіча (Я. Купалы) ці Я. Лёсіка, якую ў канцы 1919 году замяніў штодзеньнік

*„Беларусь"* пад рэдакцыяй Я. Лёсіка.

Паза межамі БНР — у 1919 годзе Беларуская Дыпляматычная Місія ў Бэрліне выдавала для ваенна-палонных беларусаў у Нямеччыне газэту

*„З Роднага Краю"*, а ў Коўні для беларускіх вайсковых аддзелаў у Летуве выходзіла газэта

*„Варта Бацькаўшчыны"*.

Із беларускіх часапісаў у 1919 годзе выходзілі

*„Бацькаўшчына"* (Горадня), тыднёвік Беларуска-Прасьветнага Таварыства „Бацькаўшчына", закрыты польскімі акупантамі;

*„Беларускае Жыцьцё"* (Вільня), ілюстраваны тыднёвік пад рэдакцыяй Ф. Аляхновіча;

а паза БНР —

*„Часопісь"* (Коўня), ілюстраваны штомесячнік Міністэрства Беларускіх Спраў у летувіскім урадзе, пад рэдакцыяй Я. Варонкі.

У 1920 годзе далей выходзіў у Менску штодзеньнік *„Беларусь"* а ў Коўні — *„Варта Бацькаўшчыны"*. З новых газэтаў —

*„Незалежная Думка"* (Вільня), тыднёвік;

*„Наша Каляіна"* (Слуцак), двухтыднёвік Беларускай Партыі Эсэраў; і

*„Пагоня"* (Вільня — Коўня), орган Міністэрства Беларускіх Спраў у летувіскім урадзе.

Із часапісаў выходзілі далей *„Беларускае Жыцьцё"* (перанесенае зь Вільні ў Менск) і *„Часопісь"* Міністэрства Беларускіх Спраў у летувіскім урадзе. У Менску зьявіліся тры новыя часапісы —

*„Рунь"*, ілюстраваны тыднёвік літаратуры й мастацтва пад рэдакцыяй І. Луцэвіча (Я. Купалы), які замяніў сабою часапіс *„Беларускае Жыцьцё"*;

*„Падарунак Беларускаму Жаўнеру"*, орган Беларускай Вайсковай Камісіі; і

*„Саха"*, штомесячнік сельскай гаспадаркі пад рэдакцыяй А. Уласава, аднаўлены пасьля закрыцьця яго ў 1915 годзе;

у Коўні —

*„Наша Зямля"*;

у Рызе —

*„На Чужыне"*, штомесячнік Вайскова-Дыпляматычнай Місіі БНР у Латвіі, пад рэдакцыяй сакратара Місіі Г. Казячага.

У 1921 годзе ў Вільні выходзілі газэты

*„Беларускія Ведамасьці"*, тыднёвік пад рэдакцыяй М. Гарэцкага, і

*„Беларускі Звон"* пад рэдакцыяй Ф. Аляхновіча;

а із часапісаў — толькі ў Коўні

двухтыднёвік *„Вайсковы"*.

Усе названыя тут БНРаўскія газэты й часапісы на тэрыторыі БНР пры паўторнай акупацыі БНР расейска-савецкім войскам у ліпені-жніўні 1920 году, як і царскімі ўладамі ў 1915 годзе, або былі ізноў закрытыя, або яны самі мусілі спыніць свой выхад. Заміж іх, як і ў 1917 годзе, савецкія ўлады выдавалі свае пэрыядычныя выданьні ў **расейскай** мове[104]. У студзені 1919 году ЦБ КП(б)Б прызнала нават немэтазгодным выдаваць у БССР газэты ў беларускай мове[105].

Толькі ад жніўня 1920 году, пасьля другога абвешчаньня БССР, побач шматлікіх расейскіх публікацыяў, было дазволена выдаваць пад рэдакцыяй Ц. Гартнага на **аднэй з аднаго** боку **газэтнай шпальце „насьценную"** газэту" *„Работніцка-сялянская Беларусь"* (ведамы Нр.1 за 4-га жніўня), якая ў сталіцы БССР, збоку тэатральных афішаў і афіцыйных загадаў і абвестак, наклейвалася на вітрынах і сьценах [106]; а ад 15.VIII.1920 г. у газэце *„Советская Белоруссия"* — расейскую мову замяніць на беларускую[107]. Ад верасьня 1920 году Наркамасьветы БССР пачаў выдаваць таксама пад рэдакцыяй Я. Купалы зь нерэгулярным выхадам і першы савецкі літаратурна-мастацкі часапіс у беларускай мове *„Вольны сьцяг"* (за 1920-22 гг. выйшлі Нр.Нр.1-9); а ў 1921-22 гг. пад рэдакцыяй З. Бядулі — такі-ж нерэгулярны дзіцячы часапіс *„Зоркі"*. Першы рэгулярны савецкі літаратурны часапіс у беларускай мове *„Полымя"* пачаў выходзіць у Менску ад сьнежаня 1922 году, г.зн. на 6-ым годзе пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

---

83) З. Бядуля, тады сакратар рэдакцыі газэты „Наша Ніва" (Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменьнікаў, Мінск, 1963, б.82).

84) С. Х. Александровіч. Пуцявіны роднага слова, Мінск, 1971, б.148.

85) А. А. Лойка. Гісторыя беларускай літаратуры, ч.2, Мінск, 1980, б.385.

86) Паводля Ю. Бібілы. Летапіс беларускага друку, ч.3, 1917-1924 гг.. Сшытак першы, Менск, 1927 г.

87) *„Залёты"* (*Сцэнічныя творы*, т.1, ч.1, Менск, 1918 г.).

88) *Maciej Buračok (F. Bahuševič) Dudka Biełaruskaja*, Wilnia, 1918; *Symon Reŭka z pad Barysawa (F. Bahuševič). Smyk Bielaruski*, Wilnia. 1918.

89) *„Паўлінка"* (*Сцэнічныя творы*, т.1, ч.1, Менск, 1918 г.).

90) *„Сымон Музыка"*, Менск, 1918 г.; *„Антось Лата. На дарозе жыцьця"* (*Сцэнічныя творы*, Менск, 1917 г.); *„Казкі жыцьця"*, Коўна, 1921 г.

91) *„Матчын Дар"* (Зборнік вершаў), Менск, 1918 г.

92) *„Модны шляхцюк"* (*Сцэнічныя творы*, т.1, ч.2, Менск, 1918 г.).

93) "Uspaminy", Wilnia, 1921 h.

94) *„Васількі"* (драма), Вільня, 1919 г.

(працяг на 4-й бачыньцы)

# З Парафіяльнага Жыцьця ў Брукліне



На здымцы, зьлева направа, айцец Максім Таўпека, Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў і Іподыякан Лявон Войтанка пасьвячаюць Пасхі ў парафіяльнай залі пасьля Вялікоднае Багаслужбы раніцай 4-га траўня г.г. Айцец Максім, прыехаўшы ў Нью Ёрк з Канады, памог Уладыку Мітрапаліту адслужыць усе сьвяточныя Багаслужбы ў Вялікі Тыдзень перад Уваскрасеньнем Хрыстовым.

# BYELORUSSIA TODAY

(continued from page 2)

children are often secretly baptized by village priests sworn to secrecy and later most aren't told of this fact. Baptism may endanger their opportunities in shool, at work, or thier careers.

The beautiful Orthodox Church I visited was full of worshipers. The priests were young and religion was very much alive. Even while thinking this, I felt my companion stiffen and look around, searching for any familiar face which could undo her. She didn't want her children deprived of any forthcoming opportunities, though she had reached her own goals and expected no more. She was trying to be a "good communist" and hostess at the same time, but I seemed to be determined to corrupt her with too many questions she could not answer.

As a change to the constant partying, drinking and being entertained, I tried out a modern disco. It was filled with eighteen to twenty-one-year olds and English as well as German music, though ancient to me, was new to the locals who danced continuously, pausing ocassionally for a drink of beer or lemonade during intervals. The queue to the counter meant a half hour wait. The disco, strictly supervised by the police, that is the KGB and the militia, closed at eleven and everyone drifted off to catch buses or walk home.

Oddly, walking home or riding a bus after dark is safe in the Soviet Union. Crime, such as rape, murder or mugging is rare. Stealing is the exception, especially if it concerns foreign currency or goods. Informers do good business with the militia, and everyone fears being caught. Whom can one trust amongst friends? I was never frightened of returning to home base after dark, though approached a few times by men who requested my company for some of the way home. Lone men, suspected of being drunk, are readily picked up by the militia and escorted to the lock-up. The militia could and often did, turn-up patrolling the streets and alleys in the most unexpected places. Many boys I saw were in unioform and I stopped noticing them as representing any particular organization. Only the local militia responsible for my papers and passport, kept me apprehensive with too many questions I could not answer, and too much personal interest in my activities to feel comfortable. I felt guilty of nothing.

Finally out of Byelorussia, away from officialdom, I appreciate and love my freedom so much more. I'm glad I had the opportunity to experience another type of life. I feel lucky to have met relatives and friends I may never see again, and I am sad that they are stuck in a state which keeps them deliberately ignorant of the world. When I hear the song "Lublu nash Kray" (I love our Country"), I'll know how my parents feel about Byelorussia, and always remember. □

## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ
# УЛАДЗІМІР СУХІ

Нарадзіўся 5 кастрычніка 1918 году ў вёсцы Есьмяноўцы, павету Вяжына Вялейскага на Беларусі ў сям'і сялянаў: бацька Юльяна й маці Марыі. У сям'і Сухіх было дзевяць дзяцей зь якіх найстарэйшы Іван і наймалодшая Лёля яшчэ жывуць. Іншыя дзеці паўміралі яшчэ маладымі. Вучыўся малады Валодзя ў пачатковым вучылішчы ў Вяжыне. Падчас акупацыі Беларусі рознымі акупантамі, с.п. Уладзімір бараніў правы пакрыўджанага беларускага Народу й Бацькаўшчыну Беларусь. Пасьля вайны яму прышлося пабыць у палоне ў Даніі, скуль, пры помачы Прэзыдэнта М. Абрамчыка, У. Сухі пераехаў у 1948 г. ў Англію, дзе працаваў, ажаніўся й набыў сваю хату.

Да грамадзкіх арганізацыяў, ці лепш, як ён казаў „да груповак" ён не належаў, хаця несупярэчыў прыходзіць на нацыянальныя сьвяткаваньні й спатканьні.

Найлепш любіў Царкву й стала прыходзіў на Багаслужбы ў парафіі сьв. Спаса Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брадфардзе. На працягу свайго 68-



*с.п. Уладзімір Сухі*

гадовага жыцьця ён рэдка калі наракаў на сваё здароўе, аднак у апошку, пры праверцы лекарамі ў шпіталі, было сьцьверджана, што хвароба нявылячальная. 26-га травеня сёлета с.п. Уладзімер Сухі адыйшоў ад нас на жыцьцё вечнае. Ён заставіў асірацелую ўдаву Фэлісію, сыноў Паўла й Аляксандра, дачку Анну, і ўнучку Аманду.

Адпявальную службу ў Царкве сэйнт Чадс, там дзе беларусы Брадфарду моляцца, адслужыў Мітр. Прат. а. Янка Абабурка пры ўдзеле больш як сотні асобаў. Паховіны на магільніку Шулемоор Сэмэтэры ў Брадфардзе адбыліся 3-га чэрвеня 1986 году.

Хай будзе яму лёгкай Ангельская зямелька й сьніцца васількова Маці Беларусь!

*Вечная Яму Памяць!*

*



## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ
# МАТУШКА
Протапрасьвіцера а. Васіля Кендыша
# МАРЫЯ

З Божай Волі, пасьля кароткае й цяжкое хваробы, адышла на вечны супачынак 20 травеня сёлета ў Спрынгфільд Массачусэтс, пакінуўшы ў глыбокімі смутку Айца Васіля, сына Мікалая, брата Пятра Яскевіча



*Матушка Марыя*

ў Польшчы, братовую Паўла Ольгу Яскевіч, пляменіка Пятра Яскевтча з сям'ёю й пляменіка Андрэя Прухняка.

Пахавальныя службы й паховіны былі выкананыя Яго Высокапраасьвячэнствам Мітрапалітам БАПЦ Ізяславам у саслужэньні Айца Васіля й Іподыякана Лявона Войтанкі. Паховіны адбыліся 24-га травеня на магілках у Спрынгфільд Масс.

*Вечная Ёй Памяць!*

Нарадзілася Матушка Марыя 14 лістапада 1920 году ад бацькоў Антона й Еўдакі Яскевіч у г.Маладэчна ў Заходняй Беларусі. Пачатковую школу закончыла ў Маладэчна. Гімназію ў Нясьвіжы Наваградзкага павету. 3-х гадовы Пэдагагічны Ліцэй у Шчучыне. Падчас вайны закончыла курс Настаўніцкага Інстытуту й працавала настаўніцай у Клецкім Раёнє. Там пазнаёмілася з настаўнікам Васілём Кендышам і пажаніліся ў 1941 годзе. У выніку ваенныхэ падзеяў апынуліся ў Зах. Нямеччыне і ў 1950 г. пераехалі на сталае пасяленьне ў ЗША дзе, у 1951 г., нарадзіўся сын Мікалай. Падгадаваўшы сына, закончыўшы мед. тэхн. школу атрымала працу ў Мэрсі Госпіталь у Спрынгфільд, дзе працавала 21 год і вышла на пэнсыю ў пачатку гэтага году. З Божае Волі па кароткім супачынку, адыйшла на вечны супачынак.

*Вечная Памяць!*

# РОЗНАЕ

(працяг з 2-й бачынкі)

студзень-сакавік, 1986 г. У газэце прадаўжаецца ігнаранцыя ўсяго звязанага з БАПЦ. Гэты нумар *Беларуса* ёсьць апошні друкаваны на разьбітым лінатыпе ў старамоднай украінскай друкарні якая ўжо закрылася. Пра будучыню *Беларуса* нічога ня ведама, але ясна, што ў новай мадэрнай друкарні выданьне газэты будзе каштаваць больш. •

# Акт 25-га Сакавіка...

(працяг з 3-й бачынкі)

95) *"Bazylišak", "Na Antokali", "Butrym Niamira"* — усе ў Вільні ў 1918 г.; „*Чорт і баба*", „*Манька*" (*Сцэнічныя творы*, т.1, ч.2, Менск, 1918 г.); *"Strachi Zyćcia", "Dziadźka Jakub", "Na wioscy"* — усе ў Вільні ў 1919 г.; „*Цені*", Менск, 1920 г.; *"Niaskončanaja drama"*, Wilnia, 1921 h.

96) „*Дзьве душы*", Вільня, 1920 г.

97) *М. і Г. Гарэцкія. Маскоўска-беларускі слоўнік*, Выданьне 2-ое, Вільня, 1920 г.; *М. Гарэцкі. Беларуска-маскоўскі слоўнік*, Вільня, 1921 г.; *В. Ластоўскі. Падручны Расійска-Крыўскі* (*Беларускі*) *Слоўнік*, Коўна, 1920 г.; *К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі. Слоўнік гэамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў*, Коўна, 1920 г.

98) *Праф. М. В. Доўнар-Запольскі. Асновы дзяржаўнасьці Беларусі* (брашура із картаю БНР у пяці асобных выданьнях — у беларускай, нямецкай, францускай, польскай і расейскай мовах), Городно, 1919 г.; *А. Цьвікевіч. Беларусь*, Бэрлін, 1919 г. і „*Адраджэньне Беларусі і Польшча*", Бэрлін 1921 г.; *К. Езавітаў. Беларусы і палякі*, Коўна, 1919 г.; *А. Навіна* (*Луцкевіч*). *Польская акупацыя ў Беларусі*, Вільня, 1920 г.; *Я. Варонко. Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Коўна, 1920.*

99) *А. Грыневіч. Народны сьпеўнік*, Вільня, 1920 г.

100) *А. Фарботко. Беларусь у песьнях*, Менск, 1920 г.

101) Для выданьня расейскіх газэтаў і часапісаў у БССР у лістападзе 1920 г. у Менску было заснавана аддзяленьне Дзяржаўнага Выдавецтва РСФСР, у студзені 1921 г. пераназванае ў Дзяржаўнае Выдавецтва БССР, якое ў наступным годзе увайшло ў склад Белтрэстдруку.

102) У ім: новыя творы Я. Купалы, Я. Коласа, К. Каганца, М. Грамыкі, артыкулы М. Пятуховіча, С. Некрашэвіча, Я. Лёсіка й інш.

103) Аўген Калубовіч, б.35.

104) Вось далёка няпоўны сьпіс іхны.

**Газэты:**

у Смаленску — „*Советская правда*" (1917-18 гг.), „*Извѣстія Смоленскаго Совѣта*" (ад к. 1917 г.), „*Известия Западной коммуны*" (1918 г.), „*Бедняк*" (1918-19 гг.) і інш.

у Менску — „*Звѣзда*" (іншыя ейныя назовы — „*Молотъ*", „*Буревестникъ*", ад 1917 г.), „*Крестьянская газета*" (1917 г.), „*Извѣстія Минскаго Совѣта*" (іншы назоў — „*Рабочий и солдат*", 1917-18 гг.), „*Известия Временного Рабоче-Крестьянского Советского Правительства Белорусии*" (1919 г.), „*Минский пролетарий*" (1919 г.), „*Известия военно-революционного Комитета ССРБ*" (1920 г.), „*Советская Белоруссия*" (ад ліпеня 1920 г., перад тым выходзіла ў Смаленску);

у Магілёве — „*Известия Могиленвского Совета*" (1918 г.), „*Соха и молот*" (1919-24 гг.);

у Віцебску — „*Известия Военно-революцийного комитета г. Витебска*" (іншы назоў — „*Заря Запада*", ад 1918 г.), „*Известия Витебского Совета*" (1919 г.), „*Голос бедняка*" (1919 г.);

у Гомелі — „*Извѣстія Гомельскаго Совѣта*" (іншы назоў — „*Путь Советов*", 1917-20 гг.), „*Известия революционного комитета г. Гомеля*" (1919 г.);

у Полацку — „*Революціонный голосъ*" (1917 г.), „*Красная газета*" (1918 г.), „*Известия*" (1918-19 гг.);

„*Извѣстія Мозырскаго Совѣта*" (1917-18 гг.), „*Известия Колимовичского исполкома*" (1918 г.). „*Известия Совета Оршанского уезда*" (іншы назоў — „*Набат*", 1918-20 гг.), „*Известия Борисовского Совдепа*", ад 1918 г., ад 1920 г. — „*Бедняк*"), „*Известия Исполкома Советов*" (іншы назоў — „*Факел*"), Сянно, 1918-22 гг., і г.д.

**Часапісы:**

гаспадарчыя — „*Экономическая жизнь*" (Смаленск, 1918-19 гг.), „*Хозяйство Белоруссии*" (Менск, 1920-21 гг.); грамадзка-палітычныя — „*Заря Запада*" (Менск, 1919 г.), „*Коммунистический труд*" (Віцебск, 1919-23 гг.), „*Полесский коммунар*" (Гомель, ад 1919 г.), „*Заря*" (Чаусы, 1919 г.), „*Голос труда*" (Віцебск, 1920-21 гг.); камсамольскія — „*Набат молодежн*" (Гомель, 1920-21 гг.); асьветныя — „*Школа и культура Советской Белоруссии*" (Менск, 1919-21 гг.), „*Вестник Народного комиссариата посвещения ССРБ*" (Менск, 1921-22 гг.), „*Коммунистическое прсвещение*" (Гомель, 1920-21 гг.); літаратурна-мастацкія — „*Голос*" (Менск, 1919 г.), „*Жизнь - творчество*" (Гомель, 1919 г.), „*В буре*" (Сянно, 1919 г.), „*Искусство*" (Віцебск, 1921 г.) і інш. — БелСЭ, т.2, бб.117-119; т.5, бб.54-56; т.11, б.209; т.12, бб.398-399 і інш.; Н. Б. Ватацы. Мастацкая літаратура Савецкай Беларусі (1917-1960), Мінск, 1962, бб.383-386.

105) Аўген Калубовіч, б.65, увага 98.

106) Газэта „Літаратура і Мастацтва", Менск, Нр.83/1305 за 15.X.1958 г.

107) Паза БССР перад тым у Петраградзе — Маскве ад 1.III.1918 да 24.II.1919 гг. пад рэдакцыяй З. Жылуновіча (Ц. Гартнага) выдавалася ў беларускай мове савецкая газэта „*Дзяньніца*", а пад рэдакцыяй А. Вазілы ў Петраградзе ў ліпені-сьнежані 1918 году — двумоўны расейска-беларускі часапіс „*Чырвоны Шлях*" — БелСЭ, т.12, б.398; Н. Б. Ватацы, б.388.

(працяг будзе)